№23(49)
30.06.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.



**TV праграмма на неделю**

( стр. 4 )

**Пра РОК**

( стар. 7 )



*Сябра-чытач! Сіноптыкі зноў абяцаюць спякоту. "Беларуская маладзёжная" ліняе ў адпачынак, каб у гэты час не "капаць" вам на галаву.*



*СУСТРЭНЕМСЯ Ў ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ ЖНІЎНЯ -- ДАСЦЬ БОГ, ЖЫВЫЯ, ЗДАРОВЫЯ. І -- БУДЗЕМ РАЗАМ!*

## Фестываль у краіне дурняў

( стар. 2 )

*Школа выжывання*

## Свет будзе такім, якімі будзем мы

( стар. 3 )

## "Новая Зямля" дзеля беларусаў і Беларусі

Я цвёрда веру ў свой народ", — пеў некалі Сяржук Сакалоў-Воюш". І я верыў разам з ім. Зараз Сяржук у ЗША. А я — тут, і вымушаны прызнацца, што народа як адзінага цэлага, носьбіта суверэнітэта і культуры Беларусі, больш не існуе: ёсць насельніцтва, якое адраклося ад мовы і Бацькаўшчыны, ёсць тэрыторыя, якую яно займае. Ёсць насельніцтва, абыякавае да ўсяго, што за межамі кілбасных інтарэсаў і статкавых інстынктаў. Яно займае забруджаны попелам Чарнобыля камуністычны запаведнік у сэрцы Еўропы. Есць тэрыторыя, на якой зневажаюцца правы чалавека, нават дэпутатаў б'юць, не кажучы ўжо пра паліцэйскі гвалт над беларускімі студэнтамі, якія прайшлі сімвалічным маршам "палітычных вязняў" пад вокнамі рэзідэнцыі Лукашэнкі, — тэрыторыя, над якой пляскае чырвона-мусульманскі (ды не пакрыўдзяцца апошнія) штандар і на гербе якой намалявана нешта падобнае на кветкі каноплі. Не хапае толькі заклiку "Даеш план на калгасных палетках!"

Вось такая рэчаіснасць. Але нічога, хутка калгасныя "хіпаны" з "энтузязізмам" пойдуць пад двухгаловым арлом на чачэнскую вайну ці мыць боты ў Індыйскім акіяне. Дарэчы, гэта зусім не жарт: памятаеце аншлюз Аўстрыі 1938 года?

Таму — рабіце высновы, пакуль засталося права выбару хаця б для сябе. Думайце, што вы абярэце — хадзіць, склаўшы рукі за спіной, ці адчуваць сябе вольнымі людзьмі. Але дзеля гэтага вам давядзецца стварыць Новую Зямлю — Новую Беларусь. І няхай гэта будзе зусім іншая краіна.

Мы нікуды вас не заклікаем. Вы самі ведаеце, што вам рабіць.

*Старшыня аргкамітэту "Новая Зямля" Сяргей ГРАДОЎКІН*

*Кантактны тэл.58-82-72.*

## Прэзідэнт адгароджваецца

Падобна на тое, што студэнты з пазакладанымі за галаву рукамі моцна напалохалі кіраўніка нашай дзяржавы. Пасля нашумелай студэнцкай акцыі па ўсім перыметры прэзідэнцкай адміністрацыі, што па вуліцы К.Маркса, з'явіліся металічныя шыльдачкі, на якіх напісана: "Праход па тэрыторыі, якая прылягае да будынка, забаронены". На вуліцы, ля ўвахода, увесь час шпацыруе міліцыянт, які брудна лаецца на тых, хто, не заўважыўшы шыльдачак, спрабуе скараціць сабе шлях, ідучы наўпрост.

А ў Нацыянальную бібліятэку, што месціцца побач з адміністрацыяй прэзідэнта, нядаўна завіталі госці з Камітэта дзяржбяспекі. Усім работнікам, вокны чыіх кабінетаў выходзяць на рэзідэнцыю А.Лукашэнкі, было загадана адсунуць сталы ўглыб памяшкання, далей ад акон. Напэўна, для таго, каб бібліятэкары сваімі выпадковымі недалікатнымі позіркамі не заміналі прэзідэнту працаваць. Ходзяць чуткі, што хутка прэзідэнцкі гмах будзе абнесены калючым дротам, па якім пусцяць электрычны ток, а ўначы наваколле будуць асвятляць моцныя пражэктары.

*Ігар АНДРЭЙЧАНКА*

# Дапякло? Ці яшчэ трываеце?

# Фестываль у краіне дурняў

Пасля бойкі кулакамі не машуць.

Замест свята — тлумачэнні. Хіба вартая замена?

5-м чэрвеня датаванае пісьмо "Беларускай маладзёжнай" у дырэкцыю парка імя Горкага пра намер правесці "Купалле з "Беларускай маладзёжнай". 6-га атрымана рэзалюцыя Партызанскага райвыканкама (на тэрыторыі якога знаходзіцца парк): "Не пярэчым. З умовай правядзення фестывалю з 17 да 20 гадзін" (парк, нам патлумачылі, дзіцячы, згодна з рашэннем гарвыканкама ў 21 гадзіну дзеткі-падлеткі павінны класціся ў ложкі).

20 чэрвеня ўвечары па тэлефоне мы даведаліся, што ў другой палове гэтага дня спецыяльным пісьмом Партызанскі райвыканкам адклікаў свой дазвол на правядзенне фестывалю.

Краіна дурняў! Горшы з дурняў — дурань з ініцыятывай — мы, "Беларуская маладзёжная". "Разумныя" даўно "злінялі" з гэтага паўночна-заходняга краю ці заняліся ўціхую накапленнем капіталу. Мы — менестрэлі, вечныя шукальнікі праўды, бадзягі — душа нараспашку. Ганарары ў час не выплочваем — а за фестываль! І знайшлі ж такіх, як самі, — рок-гурты, фальклорныя групы, гатовыя выступаць за "дзякуй", фірмы, якія вызначылі прызы для ўдзельнікаў фестывалю, далі аўтобусы, памяшканні, апаратуру... Болей таго — такіх, як мы, знайшлося на дзіва многа: Міжнародны адукацыйны цэнтр (IBB), вядомая выдавецкая фірма "Эрыдан", "Крыніца", дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля", "Фіко"... Нават напярэдадні рок-канцэрту званілі не пазначаныя ў афішы, але гатовыя бясплатна выступіць рок- і фольк-гурты.

Усім — удзячнасць і прабачэнні ад нас, дурняў наіўных, за дурняў злапыхлівых, сапсаваўшых свята.

Дурняў пад нумарамі 2, 3, 5, 10 не будзем падзяляць па ступенях адказнасці і ўладнай значнасці. Мы лічым іх аднолькава важкімі. І — пардон — ...неразумнымі. Ну хіба стане разумны чалавек званіць за дзень-другі да фестываля дырэктару парка з катэгарычным "что хотите делайте, но чтобы этого фестиваля не было"?! Хіба стане разумны чалавек крычаць: "Я не дазваляю! Майго дазволу не пыталіся!", калі па закону ягонага дазволу і не патрэбна. Хіба кінецца разумны забараняць сабрацца на адпачынак людзям, ужо абвешчаным пра час і месца збору ды запланаванае свята?

І хіба разумны будзе сцвярджаць, што нельга праводзіць анічога без ягонага кантролю ды ўдзелу, калі і сам ведае, што "удзел" толькі кантролем (цэнзураю) і абмяжуецца?

І хіба скіруе на разгон маладзёжнага фестывалю міліцыю, АМАП?

Краіна дурняў! За кожным "разумным" тут — канкрэтная асоба, з пасадаю, прозвішчам, паўнамоцтвамі. Цэлы спіс "разумных", што маюць дачыненне да забароны купальскага фестывалю, занатаваны ў рэдакцыі. Каго цікавіць — звяртайцеся.

Нам цікава іншае. Навошта ў горадзе (краіне) столькі "разумных", якіх мы, "дурні", вымушаны ўтрымліваць, каб яны на нашыя ж грошы псавалі нам жыццё? Ні адна з уладных структураў (раённая, гарадская, рэспубліканская) нічым не магла і не збіралася дапамагчы фестывалю: ні грашыма, ні транспартам, ні тэхнікай. Ні нават аператыўным вырашэннем сітуацыі "дазваляю —не дазваляю". Столькі людзей сядзяць — працуюць, марнуюць паперу і час, ездзяць "мяняцца вопытам"... Няўжо ж дзеля таго, каб на кожную грамадзянскую ініцыятыву своечасова накінуць забарону, "выключыць мікрафон"?



Вядучы спецыяліст упраўлення культуры гарвыканкама сп. Анцiповіч не хаваў вядучага матыву забароны: загаловак "Беларускія палітыкі будуць шукаць папараць-кветку" у адной з газет, праанансаваўшых фестываль, спалохаў улады.

Краіна дурняў! А што, не шукаюць тую кветку — рэцэпт шчасця —і палітыкі, і простыя смяротныя? Што, не гавораць пра багну, якая вось-вось паглыне Беларусь, і ў парках, і на заводах, і ў чэргах, і на кухнях? Здаецца, ужо і найвышэйшым указам не прымусіш усіх глядзець на сённяшняе жыццё праз ружовыя акуляры...

"Беларуская маладзёжная" спланавала свой фестываль на дзень астранамічнага Купалля. Каб не пакрыўдзіць вернікаў. Каб перагукнуцца ўначы з духам продкаў, прыгадаўшых час пошукаў шчасця менавіта на гэтую пару, калі дзень роўны ночы, калі пануе ў свеце крохкая раўнавага паміж светам і цемрай — і яшчэ ўсё можна вырашыць шчаслiва, варта толькі шукаць і знайсці Папараць...

Тых, хто не знайшоў, перамагае ноч.

## Фэст без мікрафонаў

Каля шаснаццаці гадзін парк Горкага запаланілі супрацоўнікі міліцыі. Яны хадзілі туды-сюды па цэнтральных алеях, сядзелі на лавачках, сям-там хавалі пад плашч-палаткі аўтаматы. (Нагадаю: надвор'е на дзіва стаяла выдатнае: сонечна, ясна! Навошта плашч-палаткі? Няўжо наша міліцыя цукровая? І яшчэ адно назіранне: усё часцей у горадзе сустракаюцца прадстаўнікі нашых праваахоўных органаў узброеныя, як кажуць, да зубоў — з аўтаматамі, у шлемах і бронекамізэльках... Каго баяцца?)

На цэнтральнай пляцоўцы, каля помніка Аляксею Максімавічу, пачалі збірацца людзі. Большасць спецыяльна прыйшла на фестываль: у газеты, як і ў былой радыёстанцыі, шмат сяброў, прыхільнікаў, аднадумцаў, спачуваючых самага рознага ўзросту. Амаль усе рэспубліканскія газеты, радыё давалі абвесткі пра фестываль, апублікавалі інтэрв'ю яго арганізатараў і ўдзельнікаў. Спыняліся і выпадковыя прахожыя, убачыўшы такі натоўп міліцыі. А хтосьці чакаў і скандала, драматычнага разгортвання падзей... Высокія міліцэйскія чыны з вялікімі зоркамі на пагонах у мегафоны гучна абвяшчалі, што мерапрыемства забаронена ўладамі і раілі публіцы разысціся, не збірацца ў парку, не гуляць. Маўляў, дзіцячы парк — не месца для правядзення палітычных мерапрыемстваў. (Божа, нават партыйныя ідэолагі часоў застою не здагадаліся б, напэўна, атаясаміць народнае фальклорнае свята Купалле з палітычным мерапрыемствам!) Хтосьці гучна рассмяяўся: гэта ў парку не збірацца і не гуляць? Хтосьці прагавіта абурыўся: колькі разоў камуністам улады дазвалялі праводзіць іх мітынгі і святы ў дзіцячым парку... Шчыра кажучы, асабіста мне міліцыю было шкада: менавіта яна была пастаўлена сваімі ўладамі ў вельмі нялёмкае становішча — выконваць, прабачце, дурацкі загад, забараняць, "не пушчаць". Спачатку намеснік начальніка Партызанскага райаддзела міліцыі падпалкоўнік Баранаў вельмі сурова тлумачыў, што мерапрыемства забаронена, папярэдні дазвол Партызанскага райвыканкама адазваны, абяцаў паказаць дакументы... Потым пачаў "загаворвацца", шукаючы падтрымку: "Где директор цирка?" Моладзь імгненна зачапілася за слова "цирк", натоўп дружна засмяяўся. Потым падпалкоўніку самому стала нялёмка, і ён стомлена параіў разбірацца з дырэкцыяй парка, з райвыканкамам і гарвыканкамам. Маўляў, пры чым тут міліцыя? Яе функцыя — абарона грамадскага правапарадку, а не палітычныя баталіі і спрэчкі. Нажаль, самі прадстаўнікі ўлады ў парку так і не з'явіліся. Праўда, праз гадзіну, калі ў моладзі ўжо з'явілася гітара, загучалі песні, у цэнтры ўвагі апынуўся малады чалавек, які сціпла назваўся "супрацоўнікам Упраўлення культуры Мінгарвыканкама Уладзімірам Анціповічам" і стаў не вельмі звязна і зразумела тлумачыць, што "в соответствии с порядком все заявки на проведение политических мероприятий должны подаваться за 10 дней в горисполком..." На пытанне, якую сувязь ён знаходзіць паміж народным святам Купалле, фестывалем фальклору і рок-музыкі і палітыкай, спадар Анціповіч сур'ёзна працытаваў загаловак у "Советской Белоруссии": "Белорусские политики будут искать папороть-кветку. А вдруг повезет?" Відаць, самому Анціповічу не пашанцавала з пачуццём гумару, а вось навакольныя тут дружна і гучна пачалі рагатаць.



Моладзь тым часам і пела пад гітару, і танчыла, тусавалася, адным словам. І яшчэ адно назіранне: дауно мы не бачылі такой колькасці журналістаў у парку! (Не менш, чым на прэзідэнцкіх прэс-канферэнцыях.) Каго тут толькі не было! Амаль усе рэспубліканскія выданні, шмат замежнікаў — прадстаўнікоў польскіх газет і радыё, канадскага тэлебачання, расійскіх "Вестей", газет краін Балтыі, радыё "Свабода"... Я налічыла толькі шэсць здымачных груп. Што ж, няма "худа без добра. Запретный плод сладок". І тут нашы "запуганные" улады спрацавалі на папулярнасць "Беларускай маладзёжнай".

Наведаў несанкцыянаванае мерапрыемства і начальнік штаба АМАПа Аляксандр Французаў, сам зайшоў у парк, а вось гвардыя яго засталася ля ўваходу. Мабыць, убачыўшы такую колькасць рэпарцёраў з відэакамерамі, камандзір пабаяўся, каб ягоныя арлы засвяціліся ў кадрах відэахронікі.

...Што ж, светлае народнае свята Купалле было забаронена, мардабою, скандалу таксама не адбылося, нават дробных эксцэсаў не было. Чыноўнікі-службісты могуць спаць спакойна. Вось толькі хто выйграў ад гэтай забароны?

**І. СТУДЗІНСКАЯ, "БМ"**

*Взгляд провинциалки*

## На Купалье — ОМОН?!

*В трудное все-таки время перешагиваем мы порог школы: кругом сплошные официальные праздники, а родители наши с огромной натяжкой концы с концами сводят. Вот уже и 7 ноября парламент объявил выходным днем. Гулять, как говорится, так гулять! Только не очень почему-то хочется ликовать и шествовать в колоннах (это удовольствие мне еще в четвертом классе досталось!). Плакать хочется, глядя на старушек, подбирающих лохмотья на свалках, и нищенок, выклянчивающих "зайчика" по вокзалам и подземным переходам.*

*Бабушка моя, старая полесская крестьянка, рассказывала, что у них другие праздники были. Без знамен, но с песнями, без лозунгов, но с шутками-прибаутками. Закончат работы в поле – тут они и начинаются, эти народные гуляния, пришедшие им по наследству от предков. И одним из самых главных, по словам бабушки Шуры, было Купалье.*

*Обо всем этом мне подумалось при виде афиши, приглашавшей отметить Купалье в Минске 21 июня.*

*Не пожалела последних своих "накоплений" (известно, каковы они нынче у школьника), подбила на доброе дело подружек, и прикатили мы на дорогущем поезде прямо к началу праздника в столицу.*

*В парке Горького народу собралось к пяти часам вечера довольно много: всем хотелось поучаствовать в настоящих народных гуляниях. Одно настораживало: милиционеров кругом многовато. Но мы поначалу думали, что это для порядка.*

*И тут, как гром среди ясного неба, грянул металлический голос, усиленный мегафоном: "Расходитесь, мероприятия не будет!" Это уже не из бабушкиных воспоминаний — из дедушкиных: он рассказывал, как их маевки польские полицейские разгоняли.*

*С хорунжими из дефензивы все понятно: они народного восстания тутэйших боялись. А чего, спрашивается, побоялись сегодняшние омоновцы? Того, что мы народные песни послушаем да веночки девичьи на воду опустим? Того, что мы хотим на "бабушкин" праздник посмотреть?! Просто бред какой-то получается!*

*Молодцы ребята-музыканты: извинившись перед нами за несостоявшийся фест, взобрались на сцену да без всякой аппаратуры пару песен для нас исполнили. Глушить, правда, их пытались музыкой из неожиданно оживших репродукторов. На весь парк грянул полонез опального в свое время Огинского. Но от этой "глушилки" у меня еще чаще сердце забилось: не знали, видать, дяденьки в мундирах, что полонез этот называется "Прощание с Родиной" (это я еще в первом классе "музыкалки" знала). А у нас вышло — прощание с родными традициями.*

*До драки, слава Богу, не дошло. Не посмели "черные береты" дубинки на сей раз против нас применить. Но на душе было больно. И за Беларусь, у которой отбирают настоящие праздники, обидно. В Бресте рассказала одноклассникам — не поверили. У нас такого пока не случалось...*

**Катя КОПЧЕНОВА, выпускница СШ N 5 г.Бреста, специально для "БМ"**

*Школа выжывання*

# Свет будзе такім, якімі будзем мы

Матэрыялы пад рубрыкай "Школа выжывання" звычайна рыхтуюцца намі не для першых старонак. Пэўныя парады для пэўных канфліктных сітуацый: што рабіць беспрацоўнаму, каго прасіць аб дапамозе выключанаму з універсітэта і г.д. — могуць быць надта карыснымі, але толькі для таго (аднаго, двух, дваццаці), хто апынуўся ў канфлікце.

У канфлікце з ладам, у якім нас прымушаюць жыць, апынуліся зараз сотні і тысячы. Маладых. Дзеяздольных. Думаючых. Нармальных.

Хіба не выклікае супраціўлення загад вярнуцца ў Вандэю — з усімі яе прыкметамі і сімваламі — у тых, хто навучыўся ўжо адрозніваць цвярозасць думкі ад завучаных догм? Хто на сябе адчуў, што розныя жыццёвыя выгоды савецкі сацыялізм дзяліў зусім не па здольнасцях і не па працы? Хто панюхаў "загнілы" Захад — ды што там Захад, "смурод" бліжэйшых суседзяў, былых сацыялістычных "лагернікаў"?

Нам загадана не думаць, не параўноўваць, не ставіць пад сумнеў. Нам загадана верыць у маральнасць і высокае дзяржаўнае прызначэнне тых, хто ставіць аўтографы на разарваным бел-чырвона-белым сцягу, хто сцвярджае, што дажыванне ў даўно адселеных чарнобыльскіх вёсках — нармальнае жыццё, хто балюе ў цэкоўскіх палатах і просіць усялякіх там "хадакоў" не перашкаджаць...

Ва ўсім гэтым (і нават не збоку, не побач) нам жыць.

Як выжыць?

Я рызыкну даць некалькі парадаў — а далей можаце дабавіць свае, прапанаваць вамі пераадоленае і асэнсаванае. За кожную такую падказку будзем толькі ўдзячныя.

Першае: не хлусіць. Сабе і навакольным. Не рабіць "хорошую мину при плохой игре". Вас ніхто не прымушае крычаць, але і маўчаць не варта, калі не згодныя вы падпарадкоўвацца бязглуздзіцы, верыць у паўпраўду, падтрымліваць па загаду. Год таму, падчас закрыцця радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная", група актораў звярнулася да калег з прапановай ігнараваць несвабоднае тэлебачанне і радыё. "Кебічаўскае тэлебачанне і радыё", — гаварылася ў звароце. Прозвішча сапраўднага ўладару эфіра хутка змянілася — несвабода засталася. І — высокая павага да тых, хто не стаў "агучваць" прафесійна і прыстойна адфільтраваныя "навіны" новых гаспадароў, іх прамовы, цытаты.

Другое: не кінуцца ў нянавісць.

Свет трэба любіць і людзей трэба любіць, нават калі гэтая любоў — трагічная непадзялёнка. Балюча, калі не разумеюць. Абуральна, калі не хочуць разумець! Але абурэннем сваёй праваты не сцвердзіш. Разумны заўсёды цярплівы да таго, каму ад Бога клёпкі бракуе, і дабразычлівасць пераканання здольная дабіцца большага, чым самы трапны папрок.

Трэцяе: працаваць. З сабою і вакол сябе, пашыраючы кола разумных, дабразычлівых, шчырых аднадумцаў. Не шкадаваць часу для сустрэч і размоў, не шкадаваць "абаротаў" розуму і сэрца: калі вы лічыце сябе носьбітам ідэі справядлівай, няхай ідэю палюбяць праз вас — прывабнага, шчодрага, даступнага.

Кожнаму з нас варта стварыць вакол сябе асяроддзе, спрыяльнае для жыцця: з пашанай да гісторыі сваёй і мовы, з павагай да намаганняў жыць дэмакратычна і цывілізавана, з памкненнем пашыраць гэтую прастору як мага болей. Народ звыкся з тым, што яго лічаць быдлам, ён толькі ловіць, адкуль гэтым разам пуга свісціць, — дайце адчуць яму сябе народам, дайце чалавеку ўсвядоміць сябе чалавекам (хоць бы не ў геапалітычным аспекце, а тут, побач з вамі) — статак ператворыцца ў грамадства.

А, згадзіцеся, лепш жыць сярод людзей — не ў статку, не ў зграі, не ў саўгасна-лагернай брыгадзе пад п'яную лаянку дурнаватага брыгадзіра...

**Т.НІЧЫПАРУК, "БМ"**

# Паводле плёткаў

* * *

Гавораць, што ў горадзе Менску стварылася новая ваенізаваная арганізацыя. Сяброў гэтае арганізацыі можна адрозьніць па завушніцах, якія яны носяць у вушох. Колькасьць і гатунак завушніцаў гаворыць пра пасады й званьні сяброў арганізацыі. Напрыклад, адна срэбная — паручнік, дзьве срэбныя — капітан, адна вялікая срэбная — маёр, тры вельмі вялікія залатыя — гэнэрал-палкоўнік і г.д. Мэты й задачы арганізацыі нявысьветленыя. Вядзецца журналісцкае расьследаваньне.

* * *

У цэнтры горада Менска, у раёне Дому афэцэраў ужо даўно йдзе будоўля. Гавораць, што пры Кебічы было вырашана аб'яднаць усе дробныя кафэтэрыі Менска ў адзін Вялікі. І новаствораны будынак меўся быць гэткім Саюзам кафэтэрыяў Беларусі. Пры гэтым усе дробныя ўстановы гэтага кшталту мусілі зьліквідавацца. Але пры новай уладзе было прынята йншае вырашэньне — зрабіць у новастворанык будынку маўзалей. Чый гэта будзе маўзалей, неправерaныя крыніцы інфармацыі не гавораць. Мусіць, нейкага выбітнага палітыка й грамадзкага дзеяча.

* * *

Зь неафіцыйных крыніцаў нам сталася вядомым, што першай законатворчай ініцыятывай новаабранага парляманту была прапанова палепшыць матар'яльнае становішча людзей. Справа ў тым, што на Беларусі апошнім часам слаба працуюць пункты абмену шкляное тары, але надзвычай прадуктыўна працуюць пункты абмену валюты. У зьвяз з гэтым парлямантарыі вырашылі дзеля паляпшэньня дабрабыту насельніцтва абавязаць прыймаць шкляны посуд у пунктах абмену валюты, але разьлік весьці ў расейскіх рублёх. На йіхнюю думку, гэта паспрыяе ўмацаваньню добрасуседзкіх стасункаў з нашым галоўным братам.

* * *

Афіцыйная асоба, імя якое мы, паводле просьбы, не называем, паведаміла: у Камісіі па ўдасканаленьні беларускага правапісу нарэшце прыйшлі да кансэнсусу (пры дапамозе прэзыдэнта). Вырашана для спрашчэньня напісаньня зьмяніць састарэлы дыфторг "шч" на агульнавядомую літару "щ", атавістычны знак "апостраф" — на ўсім зразумелую літару "ъ", а паўсюднаўжытковую літару "ў" вырашылі захаваць і нават дазволілі пісаць напачатку сказу.

# Думкі — сабе, мір — зямлі

Набліжаецца сумная дата: сорак дзён з таго часу, калі 24 траўня ля прыбіральні ймя Мудзішчава крыважэрны шаленец-студэнт-гісторык Андрусь А. ледзьве не задушыў ні ў чым не вінаватага "простого советского парня". Справа ў тым, што "парень" меў неасьцярогу служыць у АМАПе й прабягаць міма Андруся. Напаўдзікун-напаўгісторык не ўпусьціў магчымасьці й кінуўся на беднага юнака. Усё магло б скончыцца вельмі трагічна, калі б побач выпадкова не праязджаў аўтобус з АМАПаўцамі. Зь цяжкасьцю, але яны здолелі ўратаваць свайго баявога таварыша. Праўда, калі Андруся запіхвалі ў аўтобус, пад руку патрапіліся яшчэ пару дзесяткаў студэнтаў ды йіншае публікі.

І вось пасьля гэтага выпадку грамадзтва падзялілася на дзьве часткі. Адныя кажуць: "Вой, да чаво дажыліся! Студзенты жызьні не даюць! Стралять іх нада, свалачэй!" А другія кажуць: "Да чаго студэнты здрабнелі. Гэты Андрусь А. ня мог ужо дадушыць нейкага там АМАПаўца!"

Але ёсьць спадзяваньне, што грамадзтва прыйдзе да згоды. Падставы для аптымізму дае інфармацыя пра тое, што на саракавіны недадушэньня АМАПаўца прыйдуць і тыя, й другія. Каб ускласьці кветкі да маўзалея Мудзішчава, ля сьцяны якога меўся ляжаць невядомы АМАПавец. "Слава героям!" — скажа кожны з прыйшоўшых. Хтосьці падумае пра "байца", хтосьці — пра Андруся А. Галоўнае, каб свае думкі яны пакінулі пры сабе. І калі б гэткім чынам рабілі ўсе ды заўжды, быў бы мір на зямлі. Хіба не?

**Севяр'ян КВЯЦІНСКІ**

# Кто кого прогонит?

Положительный ответ народа на четвертый вопрос референдума стал причиной единодушно мрачных прогнозов относительно развития внутриполитической ситуации на Беларуси. Президент, мол, точно уловив ностальгию "своего" неисправимо "совкового" народа по старым добрым временам и хитро сформулировав вопрос, легко получил то, что ему было нужно. Имея дозвол народа на разгон Верховного Совета, президент якобы развязал себе руки в деле установления режима личной власти по образу и подобию коммунистического, что и должно произойти в скором времени.

Но если многочисленные экстрасенсы гарантируют, что они точно прочитали мысли президента и если президент, задавая четвертый вопрос, в самом деле имел в виду получить право разгонять парламент (и считает, что он его сейчас получил), то им, видимо, придется испытать разочарование. Потому что в таком случае дело снова оборачивается конфузом. И опять, как и в случае с символикой, из-за неумения окружающих президента профессионалов формулировать вопросы в соответствии со своими мыслями.

Чтобы президент получил право единолично определять, нарушена Конституция или нет, и на основании этого (и только в этом случае) "разгонять" Верховный Совет, в вопрос нужно было поставить одну-единственную фразу — "по мнению президента" перед словами "нарушения Конституции". Но, поскольку об этом забыли и вопрос сформулирован так, как написано в бюллетене, все поворачивается несколько иначе. Из формулировки вопроса совершенно очевидно и абсолютно однозначно следует, что давать заключение о том, нарушил Верховный Совет Конституцию или нет, будет только тот, кому это право дано по закону (Конституции), — Конституционный Суд. И никакой самодеятельности президента здесь быть не может. Во-первых, Верховным Советом для таких случаев должна быть принята четкая процедура, а во-вторых, должно быть четко и однозначно определено, какие нарушения считать "грубыми", а какие — "систематическими". Можно не сомневаться, что к "грубым" будут отнесены нарушения прав и свобод граждан, в том числе — права на получение информации.

Перспектива быть распущенным за свою юридическую безграмотность и пренебрежение к правам и свободам граждан станет для депутатского корпуса мощным стимулом не только для досконального изучения ими Основного Закона, но и резкого повышения профессионализма и ответственности. Для Верховного Совета, четко и слаженно работающего, принимающего тщательно продуманные законы, компетентного и уверенного в себе, президентские нахмуренные брови и сердитые усы уже не будут одним из решающих факторов, влияющих на процесс законотворчества. И в такой ситуации президент, решивший, что стал шчупаком у беларускай сажалцы, сам может оказаться в роли карася и столкнуться с угрозой смещения с должности за те же самые грубые нарушения Конституции.

**В.ЯЦКОВСКИЙ**

*Знать -- в лицо!*

# Прейскурант установлен. Можно бить?

Во все времена у благородных и воспитанных людей считалось адекватной нормой нанесение пощечины обидчикам, предателям, подлецам и прочим мерзавцам. Интеллигентные люди всегда предпочитали подобную альтернативу судебным тяжбам или вульгарным кабацким потасовкам. А потому сие не только не зазорно, но и высоконравственно. Ибо подлец должен понести заслуженное им наказание, и оно должно свершиться непременно всенародно. Дабы впредь ему и ему подобным неповадно было. И не следует думать, что подобное действие носит локальный, малозаметный характер. Молва быстро и неуклонно распространит этот позор подлеца по всему свету. А тогда ему — хоть в петлю, хоть в омут, хоть — пулю в висок. Если, конечно, он хоть в какой-то степени обладает разумом, а не существует одними лишь животными инстинктами.

Вот и сейчас пощечина, нанесенная Николаем Статкевичем автору омерзительного кинопасквиля Ю. Азаренку, получила оглушительный резонанс не только внутрибелорусский, но и международный. Недаром сразу же зашевелились разного рода "эсэсовцы" из Белой Руси, а также их российские, болгарские и прочие приверженцы вкупе с жириновцами и баркашовцами. Пролив крокодиловы слезы по поводу "обиженного" собрата, они требуют инквизиторских мер по отношению к истинному патриоту славянства и просто порядочному человеку. Ну да Бог с ними, этих не переубедишь, да и смысла никакого.

Гораздо важнее, чтобы наш народ (а не толпа люмпенов и бомжей) понял, наконец, что его и сейчас, как и три четверти века перед тем, продолжают водить за нос одни и те же люди (фамилии здесь, разумеется, не имеют значения), используя для этого любые нечистоплотные приемы. И делают это они руками заказных, как правило малопочтенных, но весьма услужливых подручных. И тогда появляются на свет низкопробные "произведения" наподобие азаренковского "шедевра", под характерным для большевистского понятия названием "Ненависть..." и т.д.

Прекрасную полемическую статью опубликовал в "Народной газете" за 13.06.95 известный кинорежиссер и в высшей степени порядочный человек (что явствует буквально из каждой строки газетной публикации) Виктор Дашук. Профессионал уверенно и авторитетно при наличии глубочайшей аргументации утверждает, что "фильм Ю.Азаренка "Ненависть: дети лжи", про который шла речь в телеинтервью (11 мая 1995 г. —В.З.) и который Лукашенко похвалил, — кинофальшивка, от первого кадра и до последнего. Я утверждаю это как профессионал с многолетним опытом работы в качестве драматурга, кинорежиссера и кинооператора документального кино". Дашук обосновывает, что заказанный режимом Лукашенко фильм является явной провокацией против основного политического противника президента — БНФ, и этот заказ должен был поспеть к определенному сроку — к референдуму. И тут же уважаемый мэтр кинодокументалистики задает вполне резонный, но все-таки риторический вопрос: "Неужели такой заказ можно считать чем-то ЗАКОННЫМ и ЭТИЧНЫМ? (выд. мною. — В.З.).

Боже мой! О каком уважении к закону, о какой этике может идти речь в данном случае, многоуважаемый Виктор? Вы ведь сами не без основания утверждаете, что "у тех, кто завоевал власть, 99% энергии направлено на то, чтобы удержать власть любой ценой". В том числе и ценой подтасовок, затыкания рта, выбеливания газетных полос, государственной (читай: авторитарной) оккупацией средств массовой информации, особенно электронных, подсовывания народу фальшивок и прочих аксессуаров большевистской "демократии", включая полицейские дубинки, в т.ч. и в парламенте, в т.ч. и против парламентариев. И все это называют не диктатурой, а "усилением власти и наведением порядка".

Но мне все-таки верится, что ДАЖЕ наш народ поймет все в конце концов. И поможет ему в этом... президентская политика, ведущая к очередному "светлому будущему" через "снижение инфляции и стабилизацию белорусского рубля по отношению к американскому доллару" на фоне (и не парадокс ли это?) обвального падения производства, снижения его объемов до 40% в марте месяце, простоя 80% промышленных предприятий, катастрофического положения в сельском хозяйстве, продолжающегося интеллектуального и духовного геноцида нации, массового обнищания "широких масс трудящихся", уничтожения национального самосознания целого народа.

И как же мне хочется, чтобы как можно больше людей Беларуси стряхнули с себя хоть бы один раз культивируемую многие десятилетия официальной идеологией интеллектуальную обломовщину, разыскали бы замечательную статью Виктора Дашука в "Народной газете" за 13.06.95 г. и внимательно вчитались бы в каждую фразу! Уверен, что в этом случае спадет пелена с глаз, и им захочется разогнуть спины, встать, наконец, во весь рост и приблизиться к тому состоянию, которое классик еще в начале века определил словами "Людзьмі звацца!"

Что же касается Азаренка... Ему хочется предложить неплохо заработать на судебных тяжбах. Подумать только: ведь легкая опухоль от пощечины проходит через день. Следовательно, через день можно подставлять не одну, а сразу обе щеки (желающих, уверен, найдется предостаточно, и всего за 60000!). И тогда, по калькуляции народного суда Советского района г.Минска, в неделю можно заработать совсем не хилую сумму, особенно для электората режиссера и нанявшего его режима, на который они постоянно опираются. А именно: 360 тысяч "зайцев", что в месяц составит где-то 1440000-1800000 рублей. Рискните, Азаренок, уверяю вас, эти каиновы сребренники смогут надежно и существенно пополнить ваш господский гонорар. И ваше холуйское рвение будет вознаграждено вдвойне. А все порядочные люди — всегда к вашим услугам!

Предельно не уважающий вас, что и подтверждается в какой-то мере написанием в этом тексте прямых обращений к вам с малой буквы,

**Владимир ЗВЕРНИК, бывший кандидат в депутаты Верховного Совета, зам. председателя Партии здравого смысла**

